



Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

26 студзеня 2001 года
№ 4 (301)
Цана ў розніцу 105 рублёў





## Навіны рэгіёна

### Есць шанец укалоцца

**ВАЛОЖЫН.** Раённае тэрытарыяльна–медыцынскае аб'яднане пачало рабіць прышчэпкі супраць грыпу (пачатак эпідэміі чакаецца ў канцы студзеня–пачатку лютага).

Першымі засцерагчыся выказалі жаданне работнікі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. 700 доз для дзяцей і выкладчыкаў з вызвальнікамі ўзяла валожынская школа–інтэрнат. У кабінет № 45 мясцовай палiклінікі звярнулася каля 50 чалавек (40 з іх, ізноў жа, медыкі).

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Тэлефоны закрыюць II тысячагоддзе

**ВАЛОЖЫН.** Неўзабаве ў райцэнтры зазвоняць тэлефоны яшчэ ў 700 сем'ях.

Работнікі раённага вузла электрасувязі на другі квартал запланавалі пашырэнне аўтаматычнай квазі–электроннай станцыі. Пасля гэтага ў Валожыне будзе ўстаноўлена каля 4 тысяч кватэрных тэлефонаў – адзін з лепшых паказчыкаў у вобласці. Практычна поўнасцю (у першую чаргу, тэлефоны падводзяць ільготнікам) будуць задаволеныя патрэбы чаргавікоў 2000 года.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Мядзельцы ў войска не спяшаюцца

**МЯДЗЕЛ.** Няшмат юнакоў пайшло ў войска з прызывам гэтых студзеньскіх дзён. Усяго 31 чалавек.

Шмат сёлета хворых. Але "ўхілістаў" няма. Праўда, у вышуку знаходзяцца чацвёра юнакоў – яны вучацца за мяжой (у ЗША, Германіі) і права на адтэрміноўку ад службы ў арміі не маюць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### У пошуках генеалагічнага дрэва

**АСТРАВЕЦ.** У трэці раз сабраліся прыхільніцы польскай гісторыі і культуры пры раённым аддзяленні Саюза палякаў у Беларусі на пасяджэнне жаночага клуба.

Тэмай стала стварэнне ўласнага генеалагічнага дрэва кожнага члена гуртка "Кола гаспадынь". Весці свой радавод згадзіліся ўсе: напачатку тысячагоддзя мы проста абавязаныя нагадаць нашчадкам, хто мы і адкуль пайшлі.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

### Жыве сямейная творчасць

**АСТРАВЕЦ.** У раённым ДК прайшоў фестываль сямейнай творчасці, які стаў ужо тут добрай традыцыяй. Штогод розныя сем'і 27–28 студзеня паказваюць свае танцавальныя, музычныя і паэтычныя таленты.

На гэты раз у ДК сабраліся самыя пявучыя і танцуючыя сем'і з Вароны, Варнянаў, Кацянавічаў, Якентанаў, Лошы. Канцэрт дапаўняўся выстаўкай вырабаў сямейных калектываў – дзеці прынеслі малюнкі, мамы – вышыванкі, таты – вырабы з дрэва.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

### Пахавалі Лідзію Наздрацэнку

**ВІЛЕЙКА.** У нядзелю ў Вілейцы памерла маці губернатара Прыморскага краю Расіі Яўгена Наздрацэнкі.

Лідзія Наздрацэнка пераехала ў Вілейку з іншымі перасяленцамі з Далёкага Усходу на мяжы 70–х–80–х гадоў. Жыла з дачкой Зінаідай Шаўчук, якая цяпер працуе урачом на Нарачы. У апошнія гады жыла разам з унучкай. Пахаваць Лідзію Наздрацэнку прыехаў у аўторак сын, які апошні раз быў у Вілейцы ў 1998 годзе на 75–годдзі маці.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Адмена электрычак



30 студзеня, 1 лютага
адпраўленнем 14.35, прыбыццём 13.49

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 27 студзеня

**Мінск**
-1 – -2°С (уначы)
0 – 1°С (удзень)



**Вільня**
1°С (уначы)
3°С (удзень)



Нядзеля, 28 студзеня

**Мінск**
1 – 2°С (уначы)
3 – 4°С (удзень)



**Вільня**
1°С (уначы)
3°С (удзень)



# Саша Салаўёў забраў Гран-пры

Фота Яўгена СТАЛЬМАХА.

У снежні на III міжнародным конкурсе выканаўцаў новай дзіцячай песні "Дзень нараджэння" ў Санкт–Пецярбурзе бліскуча выступіла эстрадная студыя Маладзечанскага музвучылішча імя М. К. Агінскага. Кіраўнік студыі кампазітар Алена Атрашкевіч разам са сваімі выхаванцамі Насцяй Жук, Кацяй Станкевіч, Вікай Падвербнай і Сашам Салаўёвым.

Матэрыял пра конкурс чытайце на 2–й стар.





### Віншуем

Дзяржаўны фонд падтрымкі таленавітых дзеячаў літаратуры і культуры прыняў рашэнні аб выдзяленні грантаў на 2001 год. Сярод пераможцаў – тры журналісты з дзяржаўных выданняў. У іх ліку – Наталля Валынец з вілейскай "Працоўнай славы".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ



Фота з альбома Міхаіла Асаевіча, былога фотакора маладзечанскай газеты “Святло камунізму”.

Пачатак шасцідзесятых. Калгас “Светлы шлях“ Маладзечанскага раёна. Побач новаўтвораная мяжа між Гродзенскай і Мінскай абласцямі. Маладзечна ўжо не абласны цэнтр. Але на жыцці калгаснікаў новыя адміністратыўна–тэрытарыяльныя падзелы адбіваюцца менш, чым на чынавенстве. Ім не ездзіць у Мінск з папкамі справаздачаў, не стаяць навыцяжку ў кабінетах першых і не толькі сакратароў райкомаў, абкомаў... Ім трэба сеяць, жаць, малаціць...

Калгасны двор. За гаспадарчай пабудовай, хутчэй за ўсё, складам, відаць перазімаваўшыя бурты, прысыпаныя торфам, з бульбай, а можа, буракамі. Трое калгаснікаў рамантуюць колы. Тое што перад імі – магчыма, да сеялкі. Пройдзе колькі дзён і закіпіць работа .

**Мікола ГАЙДУК.**

**Дарагія чытачы! Калі ў вашым сямейным альбоме ёсць цікавыя фотаздымкі, якія могуць абудзіць успаміны, і вы не супраць іх публікацыі, звяртайцеся, калі ласка, у рэдакцыю “Рэгіянальнай газеты“. Захаваем нашу спадчыну.**

■ ЗАБЫТАЯ ПРАФЕСІЯ

# Да кузні далёкая дарога

**МАЛАДЗЕЧНА. Прафесія каваля – адна з самых старажытных, ва ўсіх народаў карысталася асаблівай павагай. У нядаўнія часы каваля і кузню можна было знайсці ў кожнай прыстойнай вёсцы. А як сёння?**

Займаючыся іншымі клопатамі, вырашылі пашукаць па дарозе і кузню. Тым больш, што ехалі на такой, з выгляду, дабітай машыне, якой відавочна патрэбны рамонт. Ніхто ж не ведае, што на абшарпаных “Жыгулях” стаіць амаль новы фарсіраваны рухавік і ўсе вузлы адладжаныя добрым механікам.

З Маладзечна выехалі ў бок Вільні і ў прыгарадных вёсках каваля, вядома ж, не шукалі. Пра кузню пачалі пытацца пасля таго, як у Лебедзеве звярнулі налева. Шанцы знайсці каваля з‘явіліся толькі ў Маркаве. У калгасных майстэрнях кузні, вядома ж, не было, але вяскоўцы, якіх сустракалі, сцвярджалі, што ў вёсцы ёсць каваль–прыватнік. Ды не патрапіў чалавек, які змог бы паказаць, дзе гэты каваль жыве. Чулі, што ёсць такі майстар, і ўсё.

Не давялося знайсці рэдкага спецыяліста і ў Трапалаве, бо, як кажуць, тут кузні ад веку не было.

Затое ў наступнай па дарозе вёсцы, у Клочкаве, знайшлі рэшткі кузні. Кузня ёсць, а кавалёў няма. Кажуць, што кавальскую справу крыху ведае сын былога каваля, але яго не было дома.

Па звестках, атрыманых ад вяскоўцаў, дзейнічае кузня ў вёсцы Запруддзе, што па дарозе на Гародзькі, але ехаць туды не выпадала, ды і даследаванне нашае абмяжоўвалася Маладзечаншчынай.

Кавалі, вядома ж, ёсць на вялікіх прамысловых прадпрыемствах, але працуюць яны па зусім іншых тэхналогіях, чым кавалі вясковыя, ды і патрапіць да іх сельскі жыхар не мае ніякай магчымасці.

А каваль іншым разам патрэбны пазарэз. Сёння на вёсцы нават часцей, чым раней, карыстаюцца канём ды дзедаўскім яшчэ інвентаром: плугамі, баронамі, іншымі прыладамі. Усё гэта ламаецца, і з рамонтам вяскоўцы выкручваюцца, як хто можа. Альбо збіраюцца ў далёкую дарогу, шукаць кузню.

**Алег ГАНІЧАЎ.**

■ КОНКУРСЫ

## Саша Салаўёў забраў гран-пры фестывалю ў Санкт-Пецярбургу

# За гэта беларусам сказалі: «Дзякуй!»

Конкурс выканаўцаў новай дзіцячай песні “Дзень нараджэння” праходзіў у прэстыжным Гігант–Холе. Гэта суперсучасная канцэртная зала Санкт–Пецярбурга – з добрай акустыкай, аўдыётэхнікай і святлом, вялізнымі тэлевізійнымі маніторамі, фантанамі і феерверкамі. Аўтар ідэі – кампазітар **Яўгенія Зарыцкая**, якая кіруе дзіцячай студыяй “Саманта”. Яе выхаванцы паказалі для ўдзельнікаў конкурсу і гледачоў арыгінальнае тэатралізаванае дзейства “Дзеці XXI стагоддзя”.

Непасрэдна конкурс праходзіў у 2 туры; у першым (праслухоўванне аўдыёкасет) удзельнічала 1300 спевакоў. У другім апынуліся толькі 44 канкурсанты, якія і працягвалі далейшую барацьбу. Гэта былі артысты з краін Балтыі, Малдовы, Расіі, Украіны, а таксама з Гродна, Ліды, Маладзечна і Слоніма. Канкурэнцыя была надзвычай жорсткая.

Беларусы не губляліся сярод тытулаваных калег з іншых рэспублік. **Юля Пахомава** з Ліды заняла I месца ў старэйшай групе.

Асабліва ж вызначыліся юныя спевакі з маладзечанскага эстраднага класа – **Саша Салаўёў, Насця Жук, Каця Станкевіч** і **Віка Падвербная**. Для іх удзел у конкурсе стаў першай калектыўнай паездкай. Дзіцячы эстрадны клас пад кіраўніцтвам **Алены Атрашкевіч** і **Пятра Туронка** ў чарговы раз прынес перамогу і вядомасць не толькі Маладзечну, але і ўсёй Беларусі (нагадаем удалае выступленне Насці Жук і Сашы Салаўёва ў конкурсе “Калядныя канікулы”, што праходзіў летась у Маскве). Дзеці выконвалі песні кампазітара Алены Атрашкевіч, якія ствараліся спецыяльна для іх і таму дакладна адпавядалі асаблівасцям юных артыстаў.

Першы конкурсны дзень у малодшай групе адкрыла Каця Станкевіч з песняй “Модніца” (словы Н. Танюкевіч). Зала была ў захапленні ад вобраза “маленькай жанчыны” на сцэне, жадання спявачкі ўпэўніць прысутных у сваёй “даросласці”. Каця атрымала спецыяльны прыз ад аддзела адукацыі. Віка Падвербная з песняй “Мая зямля” (словы Л. Ляшчэвіч) дастойна прадоўжыла выступленне маладзечанцаў. Спецыяльна для конкурсу Віка абрала нацыянальны касцюм з каронай, якую зрабіла педагог музвучылішча Вікторыя Чырвонцава. Многія гледачы плакалі ад захаплення і пасля шчыра дзякавалі спявачцы. Віка атрымала прыз ад аддзела адукацыі і саюза кампазітараў Санкт–Пецярбурга.

У другой палове першага конкурснага дня выступіла Насця Жук. Адзінаццацігадовая дзяўчынка, якая пасябравала з “Месяцавым зайчыкам” (словы Н. Танюкевіч), атрымала вышэйшую ацэнку членаў журы. Насця заваявала сімпатыю гледачоў і атрымала запрашэнне на VIII міжнародны камерцыйны фестываль “Зорачка” у Адэсе. Асобна дзяўчынку адзначыў кіраўнік праграмы “Шанцуе людзям” на “Рускім радыё”:

– Запомніце гэтае імя. Дзяўчынку чакае вялікая будучыня!

А на завяршэнне першага конкурснага дня ў адрас беларусаў члены журы гаварылі:

– Беларусы пакарылі нас сваім майстэрствам. Сённяшні дзень па праве можна лічыць днём Беларусі. Дзякуй, беларусы!

На другі дзень конкурсу саліст маладзечанскай эстраднай студыі Саша Салаўёў атрымаў Гран–пры конкурсу, а ў падарунак – тэлевізар “Samsung” (песня “Птушка” на словы Н. Танюкевіч). Журы ацаніла яго выступленне высока – 97 балаў і пасля па гэтым “эталоне” разглядала іншыя нумары.

**Вольга ВАЛКОВІЧ, навучэнка музычнага вучылішча.**

■ ДНІ

**27 студзеня – 85 год з дня нараджэння У. Няфёда** (1916–1999), беларускага тэатразнаўцы, пісьменніка.

**30 студзеня – 80 год з дня нараджэння І. Шамякіна** (1921), беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча.

■ ІМЯНІНЫ

**26 студзеня**

Праваслаўныя: **Елізара, Пятра, Якава, Ярміла.**

Каталіцкія: **Паўліны, Палікарпа, Цімафея.**

**27 студзеня**

Праваслаўныя: **Ніны, Адама, Веньяміна, Ільі, Іосіфа, Макара, Марка, Паўла, Савы, Сцяпана, Сяргея, Яўсея.**

Каталіцкія: **Анеліі, Пшыбыслава, Пшэмыслава, Яна.**

**28 студзеня**

Праваслаўныя: **Гаўрылы, Івана, Паўла, Прохара.**

Каталіцкія: **Аўгусціна, Валерыя, Тамаша.**

**29 студзеня**

Праваслаўныя: **Леаніды, Максіма, Пятра.**

Каталіцкія: **Валяр‘яна, Здзіслава, Францішка.**

**30 студзеня**

Праваслаўныя: **Антона.**

Каталіцкія: **Гіяцынта, Тэафіліі, Марціна, Мацея.**

**31 студзеня**

Праваслаўныя: **Апанаса, Кірылы.**

Каталіцкія: **Марцэліны, Яна.**

**1 лютага**

Праваслаўныя: **Антона, Арсенія, Макара, Марка, Фёдара.**

Каталіцкія: **Брыгіды, Ігната.**

**Кінатэатр «Радзіма»**

**Вялікая зала, студзень**

26–28 **“Місія невыканальная–2”**, ЗША, баявік, прэм‘ера 16–00, 18–30, 21–00

30.01–04.02 **“Зорачка мая ненаглядная”**, Расія, меладрама (фільм фестывалю “Лістапад–2000”) 15–00, 17–00, 21–00

**Для дзяцей**

28 – “Кэці” 11–00

■ НАША ГІСТОРЫЯ




Іван Міхалёнак, 1963 год.

Фота Міхаіла АСАЕВІЧА.

# Успаміны пра Маладзечна

**Гэты рукапіс знойдзены ў альбомах, прысвечаных краязнаўчым паходам следапытаў. Напісаны ён у пачатку 1966 года.**

Працяг.

## Маладзечанскае пачатковае вучылішча

У Маладзечанскае вучылішча пры семінарыі прымалі хлопчыкаў і дзяўчынак, што дасягнулі 9–10–гадовага ўзросту. Там выкладаліся руская мова, арыфметыка да дробаў, чыстапісанне, маляванне, спевы і закон Божы з малітвамі.

Усяго ў трох класах навучалася адначасова да 60 вучняў. Дысцыпліна была жорсткая...

...Звычайныя дзеці заканчвалі 3–класнае вучылішча да 13 год і, калі хацелі, маглі здаваць уступны экзамен у семінарыю, куды прымаліся 15–гадовыя, але два гады былі дома, дзе займаліся, звычайна, гаспадаркай. У тых, што скончылі 2–класнае вучылішча з 5–гадовым курсам навучання, такога перапынку не было.

## Маладзечанская настаўніцкая семінарыя

Маладзечанская настаўніцкая семінарыя – старэйшая навучальная ўстанова Заходняга краю – была адчыненая, згодна з загадам віленскага генерал–губернатара Мураўёва, у 1864 годзе, пасля падаўлення польскага выступлення 1863 года замест зачыненай у Маладзечне польскай дваранскай пяцікласнай прагімназіі. Размяшчалася яна там, дзе цяпер чыгунна–ліцейны завод (былая Замкавая вуліца).

Прызначэннем семінарыі была падрыхтоўка кадраў народных настаўнікаў для Віленскай губерні. Я там вучыўся з 1906 па 1910 год. У семінарыю прымалі тады па конкурсным экзамене хлопчыкаў–падлеткаў, якія скончылі 2–класнае ці звычайнае пачатковае вучылішча і мелі 15 год. Асноўны кантынгент семінарыстаў складаўся з мужыцкіх дзяцей Віленскай і Мінскай губерняў, хоць былі выпадкі, калі прыязджалі вучыцца ў семінарыю і з больш далёкіх мясцін.

Семінарыя складалася з 4 класаў і падрыхтоўчага (мужыцкага рабфака), першага, другога і трэцяга. Усяго ў 4 класах семінарыі вучыліся адначасова каля 120 вучняў. Прыкладна 1/10 частка найменш пасяваючых былі “сваекоштнымі”, інакш кажучы, навучаліся за свой кошт і жылі на прыватных кватэрах. Гэта былі, у асноўным, выхаванцы падрыхтоўчага і першага класаў.

Астатнія семінарысты карысталіся стыпендыяй ад 80 да 110 рублёў у год і жылі ў інтэрнаце пры семінарыі, дзе вялі сваю гаспадарку на арцельных пачатках і самаабслугоўванні, пад кіраўніцтвам аднаго з настаўнікаў. Кожны, хто атрымліваў стыпендыю, па заканчэнні навучання павінен быў абавязкова адпрацаваць у пачатковай школе не менш за 2 гады. У выпадку невыканання гэтай умовы і пераходу на іншую работу, з яго ўтрымлівалася сума стыпендыі. Народныя настаўнікі вызваляліся ад вайсковай службы да 1914 года.

Навучальны корпус уяўляў з сябе цагляны будынак на 2 паверхі ў выглядзе літары “П” з дамавой царквой. Гэта быў да польскай прагімназіі мужчынскі каталічны манастыр ордэна трынітарыяў. Тры вялікія аднапавярховыя драўляныя корпусы адводзіліся пад інтэрнат семінарыстаў. Некалькі драўляных будынкаў меншага памеру былі адведзеныя пад кватэры для выкладчыкаў, дапаможныя службы і майстэрню.

Працяг будзе.

**Іван МІХАЛЁНАК.**

■ ЯК НАС ПАДМАНВАЮЦЬ

# Існуе шмат спосабаў абважвання

**МАЛАДЗЕЧНА. Нататкі гэтыя нарадзіліся пасля працяглай гутаркі са знаёмым, які час ад часу прывозіць на рынак то бульбу, то мёд. Аднаго разу ён быў не ў гуморы, таму, мусіць, і вырашыў здаць мне "супляменнікаў".**

"РГ", дарэчы, пісала ўжо пра няхітры спосаб падману пры падліках з дапамогай калькулятара. Тым болей, што няма ніводнага з нас, каго хаця б раз не падманулі (нават і не свядома) на рынку ці ў магазіне. Не спяшайцеся заяўляць, што вы такі ж пільны, як Юліус Фучык, калі прадавец спрацаваў чыста, вы ні пра што нават не западозрыце. Дарэчы, няхітрая статыстыка сведчыць, што часцей пакупнікоў падманваюць, чамусьці, мужчыны.

## Круглыя вагі

Давялося пачуць, што круглыя вагі, якімі найчасцей карыстаюцца бабкі, што прадаюць моркву з капусткаю ды буракамі, – бальзам на душу несумленнага гандляра. Тут нават няма неабходнасці падпілоўваць ножкі, як у вагах са стрэлкамі, ці займацца яшчэ якой няўдзячнай работай – даходлівыя канструктары забяспечылі гэтае ўстройства ручкай, якая дазваляе выставіць вагі на "нуль". Прадавец кладзе тавар на вагі і, пакуль стрэлка скача па цыферблаце, спрытна паварочвае гэтую ручку. Тавар імгненна становіцца цяжэйшы на 100–150 г.

Толькі вельмі ўважлівы пакупнік можа распазнаць такі фокус.

Хаця дасведчаныя гандляры выкарыстоўваюць іншыя спосабы. Можна, да прыкладу, тонкую леску прывязаць да паддона і фіксаваць нагою. Другой нагой націскаць на леску падчас узважвання – пакупка адразу становіцца цяжэйшай грамаў на 400.

Замест лескі можна скарыстаць і ліпкую ленту – так званы "скотч". Ен лепіцца на паддон, а прадавец цягне яго, пакуль пакупка на вагах. Калі тавар здымаецца, скотч рэзка зрываюць, каб стрэлка ўпала на нуль. У гэтым выпадку патрэбныя спрытныя рукі і навык.

Пачынаючыя прадаўцы часта выкарыстоўваюць магніт. Яго лепяць на адваротны бок чашкі – стрэлка вагаецца мацней і нарошчвае вагу тавару. Замест магніта можна скарыстаць і шматочак сала.

Гандляры, якія крыху валодаюць здольнасцямі Кашпіроўскага, папросту пераварочваюць паддон ручкаю ўніз, а пры ўзважванні націскаюць на яе пальцам свабоднай (левай) рукі. Пры гэтым глядзяць вам у вочы, ды яшчэ нешта прыемнае расказваюць.

## Бязмен

Гаспадыні добра ведаюць, якія вагавыя розначытанні мае адзін і той жа прадмет на бязмене ўласным і суседскім. Справа ў тым, што спружына згаданага ўстройства мае тэндэнцыю да расцягвання. Толькі новы бязмен будзе важыць адносна дакладна, а наогул сама прылада становіцца ці не ідэальным сродкам абважвання.

Таму калі вы не хочаце аддаваць гандлярам лішнія грошы, прыходзьце на рынак са сваім бязменам. Прычым, больш–менш новым.

## Вагі са стрэлкамі

Усе, хто гандлюе нефасаваным таварам, атрымліваюць у адміністрацыі рынку вагі са стрэлкамі. Тут асноўным спосабам абважвання было і застаецца аблягчэнне гір (ад гіры пры дапамозе дрылі выбіраюць частку, а адтуліну затым закрываюць, напрыклад, шайбай; на месца "аперацыі" льюць крыху кіслаты – каб праржавела, змазваюць машынным алеем – каб пачарнела). Парада незабыўнага Астапа Бендэра: "Пілiце гіры!" актуальная і цяпер. Кажуць, раней прадаўцы залеплівалі адтуліну пластылінам, але ў наш час гэта лічыцца непрафесіянальным.

Таму калі вам не падабаецца гіра, проста праверце яе – у "нармальнай" ёсць заводскае кляймо на донцы.

Праўда, і без таго вагі са стрэлкамі лёгка схіліць на бок прадаўца. Дастаткова ўстанавіць іх крыху пад вуглом. Можна і пакараціць пару ножак. Звычайны навар пры лёгкай "касметычнай" працэдуры – да 100 г з узважвання. У гэтым выпадку можна хіба толькі параіць прыходзіць на рынак з прыборам для вымярэння гарызантальнасці.

## Электронныя вагі

Не расслабляйцеся, калі з вуліцы ці рынку завітаеце па неабходны тавар у краму, дзе стаяць электронныя вагі. Падмануць можна і пры ўзважванні на іх.

Ёсць у іх няхітрая сістэма, так званае "скідванне тары". З яе дапамогай нескладана ўвесці ў памяць вагаў "лічыльны рэжым" – прыкладам, 150–200 г. Гэтыя вызначаныя грамы будуць аўтаматычна дадавацца да вагі кожнай пакупкі.

Каб "прашпіёніць" гэта (працуюць вагі ў нармальным рэжыме ці рэжыме падману), трэба перад узважваннем зірнуць на табло: у акенцы "масса" мусяць высвечвацца чатыры нулі. Калі там усяго адзін нуль, альбо наогул відаць знак мінус, значыць, прадавец якраз і "скінуў тару". Пакупка аўтаматычна цяжэе.

У выпадку выкрыцця прадаўца вы можаце выклікаць дырэктара магазіна, каб разабрацца. Аднак ведайце, што пакуль вы будзеце дамагацца ягонаю персону, прадавец спакойна націсне кнопкі "сброс" і "тара". Неадкладна адновіцца нармальны рэжым работы вагаў, у згаданым акенцы з'явяцца чатыры нулі, а вы, адпаведна, нічога не дакажаце.

Таму альбо ідзіце па дырэктара самастойна і ціхенька, без абурэння і скандалаў, альбо наогул проста прапануйце прадаўцу адрэгуляваць вагі. Калі не жадаеце помсты.

## Вышэйшы пілатаж

Тэхнічна граматны прадавец (а цяпер ёсць і такія, нават з вышэйшай адукацыяй) пойдзе іншым шляхам – перапраграмуе электронныя вагі. У гэтым выпадку кожная пакупка будзе цяжэць прыкладна прама прапарцыянальна сваёй вазе. Чым болей грузіць на іх, тым эфектыўней пойдзе завышэнне вагі. Калі, да прыкладу, на 1 кг "дадасца" 30 г, то на 3 кг – грамаў 100, а то і 150.

Падобнае махлярства можна вызначыць толькі з дапамогай кантрольнай гіры ці кантрольных вагаў.

## Падманлівае надвор'е

Не лічыце, што аўтар ва ўсім і заўсёды вінаваціць прадаўцоў. Нават яны могуць не ведаць, што на марозе машынны алей механічных вагаў згусае. Адпаведна механізм губляе рухомасць, а стрэлка без ваганняў паказвае большую вагу.

Такім чынам, купляць прадукты на вуліцы пры тэмпературы ніжэй нават за $+5^0$ рызыкоўна: вагі будуць вас бязлітасна падманваць, а вось на колькі менавіта – гэта самы сумленны прадавец не вылічыць.

## У заключэнне

Механічныя вагі служаць чалавеку даўно, сакрэтаў ад сваіх гаспадароў–гандляроў яны не маюць. Сучасныя электронныя вагі выконваюць некалькі задач. Узважванне тавару становіцца камфортным: кідай сабе рыбу ці арэхі на паддон, а пра астатняе паклапоціцца электроніка. Яны значна больш дакладныя за механічныя. Маразы ім не страшныя, гарызантальнасць паверхні таксама значэння не мае. Але, як відаць, і электроніку можна ў зман увесці.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**



Вочы ў вочы... Людзі пры купляннi падзеленыя вагамі. Фота IREX\ProMedia.

## Курсы валют НБ РБ

| | 18 студзеня | 25 студзеня |
|---|---|---|
| Долар | 1197,00 руб. | 1202,00 руб. |
| Нямецкая марка | 571,47 руб. | 573,18 руб. |
| Літ | 299,18 руб. | 300,42 руб. |
| Расійскі рубель | 42,19 руб. | 42,34 руб. |
| Злоты | 290,85 руб. | 292,35 руб. |
| ЕЎРА | 1117,70 руб. | 1121,05 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | 18 студзеня | 25 студзеня |
|---|---|---|
| Долар | 1230 – 1250 руб. | 1230 – 1250 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 17.01 | 24.01 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6495 | 6145 |
| Сасіскі, 1 кг | 2100 | 2100 |
| Селядзец, 1 кг | 1150 | 1250 |
| Рыс, 1 кг | 435 | 430 |
| Грэчка, 1 кг | 470 | 470 |
| Цукар, 1 кг | 558 | 565 |
| Алей, 1 л | 670 | 670 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 670 | 670 |
| Маянэз, 200 г | 250 | 220 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1200 | 1200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 420 | 420 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 360 | 360 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 180 | 180 |
| Капуста, 1 кг | 120 | 120 |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | 1300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1070 | 950 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 900 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 1000 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 900 |
| Бульба, вялікае вядро | 750 | 700 |
| Морква, 1 кг | 250 | 250 |
| Яблыкі, 1 кг | 300 | 350 |

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Самы папулярны транспарт

**МАЛАДЗЕЧНА. Асноўнай прычынай папулярнасці чыгуначнага транспарту застаецца дастаткова невысокая плата за праезд, аднак пасажырскія перавозкі з'яўляюцца для Беларускай чыгункі стратнымі. У той жа час, у параўнанні з Украінай ці Расіяй, вельмі адрозніваецца стан рухомага саставу, асабліва прыгарадных цягнікоў. Хаця разабсталяванне пасажырскіх вагонаў здараецца і ў нас.**

Летась супрацоўнікі Маладзечанскага АУС на транспарце не раз затрымлівалі людзей, якія зразалі дэрмацінавае пакрыццё мяккіх сядзенняў.

Прыкладам, у верасні на станцыі Дубравы нарад суправаджэння затрымаў двух грамадзян, калі тыя спрабавалі вынесці з вагона мяккае сядзенне.

Нярэдка пасажырам даводзіцца назіраць адсутнасць парэнчаў у вагонаў, алюмініевых ручак на дзвярах тамбураў, пакрэмзаныя сцены. Вагоны прыводзяцца ў нягоднасць не толькі знутры, але і звонку, гэта ў першую чаргу тычыцца шкла.

З 20 снежня па 7 студзеня (у час зімовых школьных канікулаў) праводзілася агульнарэспубліканская аперацыя "Канікулы". Пад сваё суправаджэнне супрацоўнікі АУСТ узялі практычна ўсе прыгарадныя цягнікі. За гэты час зарэгістраваны толькі адзін факт пашкоджання шкла вагонаў.

Паязныя брыгады заўважаюць, што, нягледзячы на зіму, чыгунка засталася месцам гульняў дзяцей. Часта можна бачыць, як з пабудаваных са снегу крэпасцяў закідваюцца снежкамі цягнікі, што праходзяць міма, часам на рэйках можа аказацца і снежны ком.

Гэтыя, на першы погляд, бяскрыўдныя свавольствы прыводзяць да непрыемных наступстваў і адпаведных пакаранняў.

**Інспекцыя па справах непаўналетніх Маладзечанскага АУС на транспарце.**

## Злы лёс перагона

21 студзеня года ў пасажырскім цягніку №149 напрамкам Масква–Калінінград пажылая жанчына ехала з Масквы дадому, у горад Чарняхоўск. На перагоне Смаргонь–Маладзечна ёй зрабілася дрэнна, яна раптоўна памерла. У гэты ж дзень з горада Чарняхоўска ў Маскву ў пасажырскім цягніку №30 напрамкам Калінінград–Масква ехала другая жанчына, якой на перагоне Смаргонь–Маладзечна таксама зрабілася дрэнна, і яна памерла. Напэўна, "злы лёс" пераследуе жыхароў Чарняхоўска на перагоне Маладзечна–Смаргонь.

22 студзеня на станцыі Уша смяротна траўміраваная 36–гадовая жанчына, якая кінулася пад грузавы цягнік, які праходзіў міма. Што прымусіла жанчыну ў росквіце сіл выбраць такую дарогу ў якасці сродка звядзення рахункаў з жыццём, высвятляецца.

**Юрый КРАЎЧАНКА, старшы інспектар групы грамадскага парадку і прафілактыкі Маладзечанскага АУС на транспарце.**

■ ДАІ ІНФАРМУЕ

# Пешаходныя клопаты

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння ў горадзе – адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху. Мерапрыемства выклікана вялікай колькасцю здарэнняў, у якіх пацярпелі пешаходы: за гэты год зарэгістравана 9 здарэнняў, 7 з якіх адбылося па віне пешаходаў. Вось некаторыя з апошніх.**

18 студзеня беспрацоўны Віктар Кажэка на аўтамабілі ВАЗ–21011 каля аўтобуснага прыпынку "Дзіцячы свет" здзейсніў наезд на пешахода Ігара Лукашэнку, які, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, пераходзіў дарогу ў неўстаноўленым месцы. Пешаход дастаўлены ў рэанімацыю.

Супрацоўнік ДАІ Уладзімір Лукашык гаворыць, што праблемай з'яўляюцца ўцёкі кіроўцаў з месца здарэння. 23 студзеня, каля 12 гадзін, насупраць дома №1 па вуліцы Ф. Скарыны быў здзейснены наезд на беспрацоўнага Юрыя Татуна кіроўцам аўтамабіля "Фольксваген–Гольф" Сяргеем Сільвановічам. Кіроўца з месца здарэння знік, аднак быў затрыманы і дастаўлены ў ізалятар часовага ўтрымання.

Сярод прычын здарэнняў, паводле аналізу ДАІ, – пераход праезнай часткі перад транспартам, які блізка ідзе, ва неўстаноўленых месцах, гульні на дарозе, дзеці без нагляду дарослых.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

**Старонка падрыхтаваная пры ўдзеле**
**Маладзечанскага аддзялення Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускі Хельсінкскі Камітэт»**

# Дзе шукаць праўду чалавеку?

**Часта даводзіцца чуць, што немагчыма дабіцца праўды, калі няма кішэняў, поўных зялёных паперак ці дзядзькі з валасатымі рукамі. Што няма сэнсу скардзіцца на несправядлівасць начальнікаў, у якіх рука руку мые. Што, як парушаюцца твае правы, дык лепш сядзець ціхенька і не выступаць, бо іначай будзе яшчэ горш. Што толькі «вар'яты» адважваюцца даказваць нешта праз суд, дзе выйграе той, у каго больш тых самых зялёных паперак ды рук валасатых. А ўсё чаму? А таму, што мы людзі маленькія, і нікому няма ніякай справы ні да нас, ні, тым больш, да нашых праблем. Гэта толькі ў казках бываюць добрыя феі ды чарадзеі, а нашае жыццё казкай не назавеш. Як кажуць, «без шанцаў». А вы з гэтым згодныя?**

МАЛАДЗЕЧНА. Год, як у Маладзечне дзейнічае грамадская прыёмная Маладзечанскага аддзялення РГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт». Людзі, якія тут працуюць, гатовыя дапамагчы вам, калі «не дай бог, што здарыцца». Прапануем інтэрв'ю з **Аляксеем Хвосцікам**, чалавекам, да якога прыходзяць па дапамогу пакрыўджаныя і зняважаныя грамадзяне.

**- Вашая дапамога сапраўды абсалютна бясплатная ці гэта толькі такі рэкламны трук?**

- Я разумею, што ў наш час, калі за ўсё трэба плаціць, у такое цяжка паверыць, але бываюць выключэнні, і мы - адно з іх. Тое, што наша грамадская арганізацыя бясплатна дапамагае людзям - абсалютная праўда. На жаль, пакрыўджаных у нашай краіне вельмі шмат і дапамагчы ўсім мы фізічна не можам. Таму, у асноўным, дапамагаем людзям, чые правы парушае сама дзяржава, і якія не маюць грошай на добрых адвакатаў.

**- Але, як кажуць, бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы. Ці азначае гэта, што вашая дапамога, скажам, не вельмі кваліфікаваная?**

- Давайце звернемся да фактаў, мяркую, што гэта будзе найлепшым адказам на пытанне.

Напэўна, усе ведаюць у якім складаным фінансава-эканамічным і сацыяльным становішчы апынулася большасць з буйных дзяржаўных прадпрыемстваў Маладзечна. Адзін з прыкладаў – завод «Спадарожнік», дзе прайшлі масавыя скарачэнні, прычым, з парушэннем нормаў Працоўнага Кодэкса РБ. Людзі, якія практычна аддалі прадпрыемству ўсё сваё жыццё, аказаліся на вуліцы. У пошуках абароны яны абышлі не адну інстанцыю. Урэшце, звярнуліся да нас, і мы аказалі ім юрыдычную кансультацыю і дапамаглі падрыхтаваць неабходныя дакументы. Людзі выйгралі справу: па рашэнні суда кожны атрымаў 100 тыс. руб. за маральны ўрон і кампенсацыю за незаконнае звальненне (10 сярэднемесячных заработных плат). Дырэктар «Спадарожніка» спрабаваў абскардзіць гэтае рашэнне ў Мінскім абласным судзе, але там падцвердзілі рашэнне першай інстанцыі. Цяпер на заводзе ўжо новы дырэктар.

Дарэчы, большая частка пытанняў, з якімі да нас звярталіся, датычыцца як раз працоўнага заканадаўства (як правіла, незаконныя звальненні). І гэта негледзячы на добрую работу юрыстаў Маладзечанскай міжраённай інспекцыі па працы.

**- З чым гэта звязана?**

- У першую чаргу - з недастатковым веданнем, а часам, проста ігнараваннем наймальнікамі нормаў працоўнага заканадаўства. Агульны ўзровень прававых ведаў нашага насельніцтва вельмі нізкі, таму без работы мы не сядзім.

**- Якія яшчэ пытанні паўставалі найбольш часта?**

- Магчыма, гэта кагосьці здзівіць, але ў сувязі з правядзеннем выбараў у Палату Нацыянальнага Сходу Беларусі, на другое месца выйшлі пытанні адміністрацыйнага права. Часам прадстаўнікі ўлады занадта старанна, без законных падстаў, раздавалі штрафы грамадзянам за распаўсюджванне агітацыйных улётак, наклеек і г. д. Вось і даводзілася абараняць людзей. Памятаю адну з такіх спраў: пенсіянера Шусціцкага аштрафавалі за распаўсюджванне ўлётак. Але сам сябе вінаватым ён не прызнаў, маўляў, «усё жыццё жыў як добрасумленны грамадзянін, і раптам пад старасць бандытам нейкім зрабілі». Мы дапамаглі яму, што называецца, адстаяць сваё добрае імя. А за адным разам і сціплы бюджэт пенсіянера ад непатрэбных выдаткаў захавалі.

На жаль, празмерна «старannымі» бываюць не толькі чыноўнікі, але і некаторыя работнікі міліцыі.

**- Што вы маеце на ўвазе?**

- Апошнім часам да нас сталі звяртацца грамадзяне, якіх збілі людзі ў міліцэйскай форме, і цяпер міжрайпракуратура расследуе тры такія справы. На самой справе, большасць пацярпелых ад міліцэйскага самавольства, лічаць за лепшае маўчаць, бо проста баяцца. А наяўнасць сярод нашых міліцыянераў людзей, якія пераходзяць мяжу дапушчальнага прымянення сілы, не можа пакінуць спакойным ні простых грамадзянаў, ні саміх работнікаў МУС.

А ўвогуле, з якімі толькі пытаннямі да нас не звярталіся: ад спажывецкіх правоў да рэгістрацыі арганізацый.

**- Дык вы не толькі грамадзянам, але і арганізацыям дапамагаеце?**

- Не ўсім, а толькі такім жа, як і мы самі (г. зн., грамадскім). Напрыклад, «Рэгіянальны цэнтр грамадскіх ініцыятываў» - пакуль да абласнога суда не дайшлі, ніяк не жадалі яго зарэгістраваць.

**- Відавочна, што людзі вас і сапраўды завальваюць працай. Але ці не існуе, у сувязі з гэтым, якіх-небудзь пераваг ці абмежаванняў па тэрытарыяльным прынцыпе?**

- За той год, што мы дзейнічаем, звярталіся людзі з Вілейкі, Астраўца, Смаргоні ды і іншых месцаў наваколля (Маладзечна і раён - само сабой), і мы дапамагалі ўсім, незалежна ад месца жыхарства. Мы вельмі радыя, што сёння жыхарам тых мясцін стала значна прасцей знайсці юрыдычную падтрымку і дапамогу. Ужо не патрэбна ехаць у Маладзечна, бо практычна ва ўсіх гарадах рэгіёна дзейнічаюць нашыя прадстаўніцтвы. На жаль, толькі Валожын складае выключэнне, але спадзяемся, што толькі «пакуль».

**- Само сабою напрошваецца пытанне: як чалавеку атрымаць вашу дапамогу?**

- Гэта нескладана. Трэба звязацца з намі па маладзечанскім тэлефоне 7-48-09 (ці бліжэйшага да вас іншага нашага прадстаўніцтва), назваць прозвішча, імя, імя па бацьку, адрас і прычыну звароту. Затым мы ўзгаднім дзень і час, калі зможам сустрэцца з вамі. Неабходна прынесці на сустрэчу пашпарт і вельмі пажаданыя дакументальныя пацверджанні папярэдняга звароту ў органы ўлады ці іншыя арганізацыі і адказы, якія вас не задавальняюць. Усе гэтыя працэдуры дазваляюць нам больш хутка і эфектыўна дапамагаць людзям. Будзем радыя дапамагчы вам.

**- І апошняе пытанне: усё ж, ці можа звычайны чалавек, без валасатых лап і без зялёных паперак у кішэні дабіцца праўды, ці гэта прывілея толькі моцных гэтага свету?**

- Абараняць свае правы не толькі можна, але і абавязкова патрэбна. І многае залежыць ад самога чалавека. Трэба запасціся цярплівасцю і падрыхтавацца да цяжкай працы (у маральным сэнсе, зразумела), бо на рашэнні першай інстанцыі справа амаль ніколі не заканчваецца, часам даводзіцца ісці нават да Вярхоўнага Суда. Мы ж, са свайго боку, заўсёды гатовыя прыйсці на дапамогу.

**Сяргей ПЫТЛІВЫ.**

**Адрасы і тэлефоны аддзялення і прадстаўніцтваў:**

**У Маладзечне** вул.Прытыцкага, 18., тэл., факс: 7-48-09 e-mail: bhc-molodechno@mail.ru, http://bhcmld.bizland.com/

**У Вілейцы** вул.17 Верасня, 28-41, тэл.: 5-49-60 Малярчук Уладзімір Архіпавіч

**У Мядзелі** вул.17 Верасня, 16-12, тэл.: 5-51-38 Цвяткова Алена Мікалаеўна

**У Смаргоні** вул.Юбілейная, 9-20, тел.: 3-27-88 (папярэдні запіс) Дзергачоў Аляксандр Мартынавіч

**У Ашмянах** вул.М. Горкага, 7, тэл.: 4-21-32 Явідовіч Пётр Мар'янавіч

**У Астраўцы** вул.Валадарскага, 45 - 38, тэл.: 2-19-93 Крук Іван Фёдаравіч

# Абарані сябе сам

**Часта парушаюцца правы грамадзян як спажыўцоў. Навучыцца самім адстойваць свае правы можна, калі ўзброіцца Законам РБ «Аб абароне правоў спажыўцоў».**

Арт. 4. Закона гаворыць: «Любы спажывец мае права на:

- дзяржаўную абарону сваіх інтарэсаў;
- належную якасць тавараў;
- бяспеку тавараў;
- поўную і дакладную інфармацыю аб таварах;
- пакрыццё ў поўным аб'ёме ўрону, прычыненага таварам неналежнай якасці;
- зварот у суд і іншыя ўпаўнаважаныя дзяржаўныя органы за абаронай парушаных правоў або інтарэсаў, якія ахоўваюцца законам;
- стварэнне грамадскіх аб'яднанняў спажыўцоў;

У шэрагу выпадкаў можна і трэба адстойваць свае правы самастойна.

Калі якасць прададзенага тавара аказалася неналежнай, спажывец мае права па сваім выбары, у адпаведнасці з п.1. арт.10 Закона, запатрабаваць:

- або бязвыплатнага выпраўлення недахопаў тавару,
- або пакрыцця сваіх расходаў па выпраўленні недахопаў,
- або суразмернага памяншэння пакупной цаны,
- або замены такога тавару таварам належнай якасці,
- або скасавання дагавора і пакрыцця панесеных страт.

Зрабіць гэта можна на працягу 12 месяцаў з дня куплі, а ў выпадках, калі на тавар устаноўлены гарантыйныя тэрміны, - на працягу гэтых тэрмінаў. Прадавец абавязаны задаволіць патрабаванні пакупніка або адмовіць у пісьмовай форме. Пасля гэтага пакупнік мае права звярнуцца са скаргай у адпаведныя органы (кіраванне гандлю, пракуратуру і г. д.) альбо ў суд.

Трэба памятаць (п. 4. арт. 10 Закона): «Патрабаванні спажыўца разглядаюцца пры прад'яўленні спажыўцом тavarнага (касавага) чэка, а па таварах, на якія ўстаноўлены гарантыйныя тэрміны, - належна афармленага тэхнічнага пашпарта або іншага дакумента, што замяняе яго». Таму, калі вы робіце значныя пакупкі, заўсёды патрабуйце выдачы чэка і афармлення ўсіх неабходных дакументаў. Прадавец (незалежна ад формы ўласнасці) абавязаны гэта выканаць.

Калі вы купілі тавар, але па якіхсьці прычынах (не падышоў памер, форма, габарыты, фасон, колер ці інш.) не можаце ім карыстацца - не трэба адчайвацца. Калі з дня продажу яшчэ не мінула 14 дзён і калі тавар не быў ва ўжытку, яго таварны выгляд і спажывецкія якасці захаваныя, ёсць усе пломбы, фабрычныя ярлыкі, а таксама чэк - вы маеце права абмяняць яго на аналагічны. Але будзьце уважлівыя - не ўсё належыць да абмену (існуе спецыяльны пералік такіх тавараў). У выпадку, калі аналагічны тавар адсутнічае ў продажы ў момант вашага звароту, прадавец абавязаны прыняць тавар і вярнуць выплачаную суму. Усё гэта адпавядае арт. 11 Закона.

Калі трэба - звяртайцеся па дапамогу ў таварыства абароны правоў спажыўцоў, або да юрыста.

**Аляксей ХВОСЦІК, юрыст.**

# Пракуратура РБ сумняваецца

**МІНСК. Пракуратура РБ разгледзела зварот РГА «БХК» аб адмене пастановы пракуратуры Мінскай вобласці аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па фактах грубага парушэння выбарчага заканадаўства і фальсіфікацыі вынікаў выбараў па Маладзечанскай выбарчай акрузе № 86.**

Вывучэнне матэрыялаў паказала, што абставіны і прычыны ўнясення змяненняў у пратакол выбарчай камісіі аб выніках выбараў па гэтай акрузе былі праверaныя не ў поўным аб'ёме. У сувязі з гэтым, 28 снежня (зых. № 15-19-2001) пракуратура рэспублікі адмяніла вышэйназваную пастанову, а матэрыялы накіравала ў пракуратуру Мінскай вобласці для дадатковай праверкі.

# Вуснае пісьмовае папярэджанне

**СМАРГОНЬ. Адміністрацыйная камісія райвыканкома аштрафавала грамадзяніна Віктара Тураўца за пражыванне ў знаёмых без прапіскі. Пакараны не пагадзіўся і вырашыў абскардзіць рашэнне камісіі ў судзе. Праўда, там падтрымкі не атрымаў: суд палічыў, што такое пакаранне з'яўляецца законным. Прыйшлося Віктару звяртацца за дапамогай у Смаргонскае прадстаўніцтва БХК, каб накіраваць скаргу у абласны суд.**

Рашэннем судовай калегіі па грамадзянскіх справах Гродзенскага абласнога суда ад 3 студзеня рашэнне суда Смаргонскага раёна ад 28 снежня адменена. Калегія палічыла, што Віктар Туравец пражываў не па месцы прапіскі па важкай прычыне. Таму пакаранне ў выглядзе штрафа было заменена на «вуснае папярэджанне».

Праўда, узнікае пытанне, як можна лічыць папярэджанне вусным, калі яно выкладзена судом на паперы?

**Маладзечанскае аддзяленне РГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» шукае для супрацоўніцтва юрыста ў Валожыне. Звяртацца па тэлефоне ў Маладзечне 7-48-09.**

■ **ВЫБАРЫ**

# Лідэр для адраджэння вёскі

**МІНСК. На мяжы тысячагаддзя група грамадзян Беларусі на сходзе ўтварыла арганізацыйны камітэт «Зямля і Воля». Яго галоўная мэта – фарміраванне ініцыятыўнай групы выбаршчыкаў па зборы подпісаў для вылучэння і рэгістрацыі кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. З гэтай нагоды прынятая адпаведная заява.**

З яе вынікае, што дзейнасць аргкамітэта будзе, у асноўным, скіраваная на работу з сельскімі выбаршчыкамі. Работу аргкамітэта заяўнікі падзяляюць на два этапы.

Да прызначэння прэзідэнцкіх выбараў фарміруюцца структуры аргкамітэта ў сельскай мясцовасці, ідзе падрыхтоўка кандыдатаў да работы ў выбарчых камісіях, арганізуецца навучанне будучых назіральнікаў, праводзяцца кансультацыі з верагоднымі кандыдатамі на пасаду прэзідэнта, распрацоўваецца праграма кандыдата ў прэзідэнты па праблемах АПК.

Пасля прызначэння выбараў пройдзе пасяджэнне аргкамітэта з удзелам паўнамоцных прадстаўнікоў сельскіх раёнаў, на якім і вызначыцца кандыдатура на пасаду прэзідэнта.

Вёска бяднее, старэе і вымірае, – падкрэсліваецца ў заяве. Патрэбныя перамены і лідэр, які ўзначаліць агульнанацыянальны рух за Адраджэнне Вёскі: «ЗЯМЛІ ПАТРЭБНЫ ГАСПАДАР!» А сапраўдны гаспадар той, хто распараджаецца прадуктам сваёй працы на зямлі.

Выбаршчыкаў заклікаюць утвараць структуры аргкамітэта «Зямля і Воля» на тэрыторыі кожнага выбарчага ўчастка і тым самым прыняць актыўны ўдзел у выбарах новага прэзідэнта.

Сярод тых, хто падпісаў заяву, – Міхаіл Антоненка, Іван Нікітчанка, Анатоль Гуляеў, Уладзімір Кулажанка, Яўген Лугін, Васіль Лявонаў.

■ **МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ**

# Грамадзянам РБ - літоўская віза без афармлення запрашэння

**МІНСК. Літва спрасціла працэдуру выдачы віз для грамядзян шэрагу краін, у тым ліку, і Беларусі.**

У дадатак да магчымасці наведаць Літву па запрашэнні ці праз турыстычную фірму, грамадзяне Беларусі цяпер могуць атрымаць візу, калі прадаставяць у пасольства страхоўку і падарожныя чэкі з разліку 40 долараў ЗША на дзень знаходжання ў Літве.

Як паведамілі БелаПАН у консульскім аддзеле пасольства Літвы ў Беларусі, аднаразовая віза на тэрмін да 30 дзён каштуе 10 долараў ЗША пры афармленні за тыдзень. Пры тэрміновым афармленні кошт візы павышаецца — выдача візы на трэці дзень пасля падачы дакументаў каштуе 25 долараў ЗША, а на другі дзень 30 долараў.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ, БелаПАН.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Нязручны саапернік-камедыянт

**19.01 Металург-JP – ЦКК (Светлагорск) 3:1 (2:0)**

**Галы**: Кузняцоў (8, 33), Янель (14); (39).

**Ход гульні** – 3:0, 3:1.

**Склад**: Бахур; Кузняцоў, Максімаў, Сіткевіч, Янель; Гарнастаеў, Грабёнак, Гружэўскі, Шаўчэнка; Складаноўскі, Снятко, Кіркіж.

**20.01 Металург-JP – МАПІД (Мінск) 1:1 (0:1).**

**Галы**: Янель (40); (13).

**Склад**: Кіркіж; Кузняцоў, Максімаў, Сіткевіч, Янель; Гарнастаеў, Грабёнак, Казяк, Шаўчэнка; Складаноўскі, Снятко, Бахур.

**21.01 Металург-JP – Сімург (Мінск) 5:6 (2:3)**

**Галы**: Гружэўскі (5), Сіткевіч (17, 31), Складаноўскі (23), Янель (28); (10), (15), (15), (22), (26), (38).

**Ход гульні** – 1:0, 1:3, 2:3, 2:4, 3:4, 3:5, 5:5, 5:6.

**Склад**: Бахур; Кузняцоў, Сіткевіч, Складаноўскі, Янель; Гарнастаеў, Гружэўскі, Казяк, Снятко; Грабёнак, Максімаў, Кіркіж.

Сімург – МАПІД 7:1, Сімург – ЦКК 15:1, МАПІД – ЦКК 15:6 (другі тайм 14:3 – !??)

| | | |
|---|---|---|
| Сімург | 28-7 | 9 |
| МАПІД | 17-14 | 4 |
| Металург-JP | 9-8 | 4 |
| ЦКК | 8-33 | 0 |

У першым туры светлагорцы выкlaліся цалкам, стаміўшы нашых землякоў, якім прадстаялі яшчэ два рашаючыя паядынкі. Сам жа ЦКК у наступных сустрэчах прапускаў па 15 мячоў. Смешна. І МАПІД аддаў гульню "Сімургу" без барацьбы, трымаючы на ўвазе заўтрашні матч з нашымі хлопцамі.

Гульня з МАПІДам стала для маладзечанцаў вызначальнай. Мінская каманда ў мінулым чэмпіянаце перамагла "Металург" з буйным лікам, у першым крузе гэтага чэмпіянату дома нашы не змаглі іх перамагчы (0:0), і вось чарговы раз упэўніліся ў нязручнасці сталічнага саперніка. Добра яшчэ, што **Янель** выратаваў ачко на апошніх секундах, калі маладзечанцы замянілі варатара палявым гульцом.

Супрацьстаянне з "Сімургам" было на турніры самым відовішчным. Сапернік адарваўся ў ліку, але "Металург", забіваючы прыгожыя галы, зраўняў сітуацыю, тым самым забяспечваючы сабе другое месца ў групе. **Бахур-Казяк-Гружэўскі** – гол. **Сіткевіч** моцна б'е ў дзевятку – гол. **Складаноўскі** б'е і сам дабівае – гол. **Кузняцоў**-Янель (пяткай!) – гол. Сіткевіч праяўляе ініцыятыву – гол. Мінчане ўсё ж правялі пераможны, шосты мяч. Маладзечанцы замянілі варатара, стварылі момант, які Казяк завяршыў ударам у крыжавіну варот.

У гэтай сітуацыі МАПІДу неабходна было з непрыстойным лікам перамагаць ЦКК. 3:0 вялі светлагорцы ў першым тайме, а потым дэманстратыўна "злілі ваду": за 8 хвілін другой паловы сустрэчы прапусцілі 12 мячоў.

Каму патрэбнае такое камедыянцтва? Паставіўшы заслону на шляху маладзечанцаў, зацікаўленыя асобы спакойна змогуць уручаць Кубак краіны мінскай камандзе, бо ў паўфінал выйшлі ўсе прадстаўнікі сталіцы, да якіх можна залічыць і "Дарожнік". Ну, а найбольш мяркуемы ўладальнік Кубка, натуральна, "Сімург".

Хемікс – Верас 7:2, Дарожнік – Белаўтасервіс 7:4, Хемікс – Белаўтасервіс 3:0, Дарожнік – Верас 8:2, Белаўтасервіс – Верас 4:6, Хемікс – Дарожнік 9:5.

| | |
|---|---|
| Хемікс | 9 |
| Дарожнік | 6 |
| Верас | 3 |
| Белаўтасервіс | 0 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ МІЖСЕЗОННЕ

## ФК «Маладзечна»: супраць "Славіі"

Папярэдні варыянт каляндара: 11 і 15 красавіка маладзечанцам належыць гуляць дома з мазырскай "Славіяй" (чэмпіёнам і ўладальнікам Кубка краіны) ды салігорскім "Шахцёрам". На 3 тур яны паедуць у Мінск да "Дынама" 28 чысла.

Усё гэта прыемна і цікава, калі б ізноў не вісеў на валаску далейшы лёс клуба. Сума грошай, што мяркуецца на яго падтрымку з гарадскога бюджэту, выклікае расчараванне і ўспаміны аб мінулых гадах.

Змена ў трэнерскім штабе. **Андрэй Шаліма** вырашыў больш увагі надзяляць сям'і ды дапамагчы сябру **Паўлу Раднёнку** ў мінскім СКАФе (Д2, былая "Акадэм-Славія"). Яго месца ў маладзечанскім клубе заняў **Аляксандр Кісцень** (1957 г. н.). Ён таксама выступаў за мінскае "Дынама", гуляў і ў "Маладзечне" (у 1991 годзе, і ў 1-3 чэмпіянатах (35 матчаў). Апошнім часам працаваў у міні-футбольным "Сімургу".

Каманда пачала праводзіць кантрольныя матчы.

22.01 Дарыда (Д2) – Маладзечна 6:6 (Стайкі, манеж, 9 на 9)

**Галы**: Багайчук – 2; Азаронак, Міхалёў, Муравейнікаў, Турчыновіч.

**Людас Румбуціс** лічыць гэты спарынг каштоўным і якасным. Сапернік займаецца ў тым манежы з сярэдзіны снежня, лёгка прызвычаіўся і павёў у ліку, аднак маладзечанцы адыграліся. Удалося праверыць у справе навічкоў.

Матч праходзіў у панядзелак пасля выхаднога ад збораў дня. Хлопцы, што жывуць у Мінску, спакойна сабраліся, а вось маладзечанскую "дыяспару" не прывез аўтобус.

У **Рубацкага** траўміраванае калена, мяркуецца аперацыя на мяніску, павінен асноўны галкіпер аднавіцца яшчэ на працягу лютага.

Плануюцца ў суботу, 26 студзеня, матчы ў Стайках на адкрытым паветры двума складамі з "Дынама-Юні" (Д2).

## Дубль маладзечанцаў: Аляксандр Гармаза і 18 юнакоў

Былы галоўны трэнер "Забудовы", акрамя сваёй асноўнай работы ў ДЮСШ-2, па сумяшчальніцтве будзе працаваць у штабе ФК "Маладзечна". "РГ" пісала ўжо, што ён зоймецца дубліруючым складам клуба, дзе цяпер трэніруюцца 18 юнакоў 1980-85 гадоў нараджэння. Першыя кантрольныя матчы, відаць, адбудуцца супраць асноўнай каманды ФК, ад планаў якой і залежыць тэрмін іх правядзення.

## ФК «Смаргонь»: у планах турнір

Традыцыйны міжнародны турнір пачнецца ў Гродне 8 лютага. Як і летась, туды збіраюцца смаргонцы. Чакаецца ўдзел шасці каманд з Польшчы і Беларусі.

## ФК «Забудова»: дзве трэніроўкі ў дзень плюс ранішняя размінка

Новы настаўнік чысцінцаў **Юрый Чэкан** (1965 г. н.) родам з Гомельшчыны, гуляў за тамтэйшыя каманды ў чэмпіянаце БССР. За плячыма мае трэнерскі досвед працы з камандай Гродзенскага аграрнага інстытута, а таксама са шчучынскім "Аўтаправодам", які выступаў у другой лізе чэмпіянату краіны.

Дзякуючы сваім сувязям, сабраў калектыў з дзесяці чалавек, якія прыехаў з ім у Чысць. Пакуль жывуць гульцы і трэнер у чысцінскай гасцініцы. Выказалі жаданне працягнуць выступаць за "Забудову" **Сяргей Івашкевіч і Дзмітрый Касцюкевіч.**

Цяпер каманда працуе ў рэжыме трохразовых заняткаў: ранішняя размінка і дзве трэніроўкі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Чытайце на наступным тыдні**

**Міхаіл і Уладзімір Макоўскія, лёс якіх, як мінімум, да лета вырашыўся (яны застаюцца ў Палтаве), напачатку студзеня далі інтэрв'ю ўкраінскай газеце "Команда".**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**26-28.01 Маладзечна, зала ЗМК.**

Занальны турнір Кубка Мінскай вобласці па міні-футболе.

За 2 пуцёўкі ў фінальны турнір (9-11.02) гуляюць зборная Маладзечна, Мядзельскі, Дзяржынскі, Стаўбцоўскі, Уздзенскі раёны, Мар'іна Горка, Заслаўе.

■ ФУТБОЛПРАГНОЗ

**Змяшчаем праграмкі на матчы 1 раунда каманд 2 карзіны і вынікі жараб"ёўкі 1/16 фіналу асноўнага і суцяшальнага турніраў.**

Нагадаем, што ў першым раундзе каманды другой карзіны размеркаваліся па наступных парах:

1. Факел – Калібр. 2. Механік – Хакер. 3. Мілан–Я – ФК Маладзечна. 4. СК Лясныя – Фартуна–В. 5. Мюнхен–1860 – Спартак. 6. Топік–2 – Баварыя. 7. МПТ – Пераменаў! 8. СЛП–2000 – ЦСКА. 9. ФК Сьера–Леоне – Скутэр. 10. Манчэстэр–85 – Лестэр. 11. Ультрас – Міленіум. 12. Рапід – Фартуна–А. 13. Хутка Новы год – EAG 14. Маладзечна–99 – Унтэрхахінг. 15. ТПС – Інтэр. 16. БІ–2 – Барселона.

Праграмы на матчы першага раунда сярод каманд другой карзіны:

Першы матч (04.02 – 13.02)

1. 07.02 Ліль – Нант
2. 07.02 Бардо – Манака
3. 07.02 Страсбур – Ланс
4. 07.02 Ліён – Марсель
5. 09.02 Фрайбург – Ганза
6. 10.02 Астан Віла – Мідлсбро
7. 10.02 Чарльтан – Ньюкасл
8. 10.02 Чэлсі – Манчэстэр Юн.
9. 10.02 Эвертан – Лестэр
10. 10.02 Сандэрленд – Ліверпуль

Матч у адказ (08.02 – 14.02)

1. 10.02 Манчэстэр Сіці – Тотэнхэм
2. 11.02 Алавес – Сарагоса
3. 11.02 Аўеда – Вільярэал
4. 11.02 Вальядалід – Лас–Пальмас
5. 11.02 Малага – Мальёрка
6. 11.02 Эспаньёл – Сельта
7. 11.02 Верона – Бары
8. 11.02 Балонья – Рома
9. 11.02 Брэшыа – Удзінэзе
10. 11.02 Вічэнца – Мілан
11. 11.02 Лечэ – Перуджа
12. 11.02 Лацыо – Аталанта
13. 11.02 Фіярэнціна – Парма

Адпраўце прагнозы да 27.01. Апошні тэрмін - 30.01.

Пераможца ў парах вызначыцца па суме двух матчаў. Потым яны ўтвораць з "калегамі" па першай карзіне пары 1/16 фіналу асноўнага турніру, а тыя, хто прайграў пяройдуць у суцяшальны турнір.

Вынікі жараб''ёўкі 1/16 фіналу асноўнага турніру "РГ":

1. Котбус Энергія – 10
2. Бонус – 14
3. 13 – Аякс–М
4. 2 – Ньюкасл Юн.
5. Мідлсбро – 11
6. 5 – Аякс–С
7. 15 – Ліналеум
8. 12 – Інтэр–С
9. ФК МБГ–РОКІ – 7
10. Ювентус – 16
11. ФК Клесіна – 3
12. 4 – Лімонеум
13. 6 – ФК Бажэна
14. Валенсія – 1
15. 9 – Гамбург
16. ФК БДУ – 8

Нумары абазначаюць пераможцаў канкрэтнай пары.

1/16 фіналу суцяшальнага турніру:

1. 13 – Маладзечна Юн.
2. ФК Рэал – 15
3. ВЕА – 1
4. Каманда мары – 10
5. 3 – 3б. Хібары
6. 9 – Глобус
7. Ліверпуль–1 – 14
8. 8 – Рэал
9. 2 – ФК ПЕА
10. ФК Маладзечна–2 – 5
11. 40–МА – 7
12. АІК – 12
13. ФПК Зеніт – 16
14. 6 – Рэал (М)
15. 11 – Мілан–Н
16. 4 – Рэйнджэрс

Па аналогіі з асноўным турнірам, лічбы абазначаюць нумары пар. Але сюды пераходзіць каманда другой карзіны, якая прайграе ў першым раундзе. Напрыклад, Маладзечна Юнайтэд будзе гуляць першы матч у гасцях з няўдачнікам пары Хутка Новы год – EAGLE–2.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПЛАВАННЕ

МАЛАДЗЕЧНА. Плавальны басейн "Маладосць" аб'явіў набор вучняў 2–8 класаў у групы па навучанні плаванню. Запісваюць у іх штодня ў 9–00 і 15–00.

Увечары працуюць групы аздараўляльнага плавання.

Даведкі па тэл. у Маладзечне **53134, 53034**.

**Табло**

■ ДЗІЦЯЧАЯ БАСКЕТБОЛЬНАЯ ЛІГА

Смаргонскія юнакі 1985 года нараджэння гулялі ў Гомелі. Перамаглі абодвух прадстаўнікоў СДЮШАР-10, а таксама гродзенцаў, саступілі "Аўтазаводцу".

6-8 лютага ў Смаргоні чацвёрка мацнейшых правядзе з улікам раней набраных ачкоў у матчах паміж сабою (дадзеныя ў дужках) аднакругавы турнір, які будзе папярэднічаць матчам плэй-оф.

| Каманды | Ачкі |
|---|---|
| Аўтазаводзец (Мінск) | 13 (5) |
| СДЮШАР-10 (Мінск) | 13 (5) |
| ДЮСШ-1 (Смаргонь) | 13 (5) |
| АДЮСШ (Гомель) | 11 (3) |
| ДЮСШ (Асіповічы) | 9 |
| СДЮШАР-10-ІІ (Мінск) | 9 |
| СДЮШАР-9 (Гомель) | 9 |
| ВАР (Гродна) | 7 |

Снайперы: Алег Драбышэўскі (АДЮСШ) – 138; **Аляксандр Танкевіч** (ДЮСШ-1) – 112.

Маладзечанскія юнакі 1987 года нараджэння выязджалі ў Магілёў. Былі там мацнейшыя за жлобінцаў і барысаўчан, у роўнай барацьбе саступілі гродзенцам, таксама прайгралі Бярозе і СДЮШАР-10.

13-15 лютага аднакругавы турнір за 7-11 месца павінен прыняць Маладзечна, хаця ёсць сумненні, што каманды-саперніцы прыедуць.

| Каманды | Ачкі |
|---|---|
| СШ-3 (Бяроза) | 19 |
| СДЮШАР-10 (Мінск) | 19 |
| СДЮШАР-7 (Гродна) | 19 |
| ДЮСШ (Калінкавічы) | 17 |
| ДЮСШ (Асіповічы) | 15 |
| АДЮСШ (Гомель) | 15 |
| **ДЮСШ-1 (Маладзечна)** | **13** |
| БМЗ (Жлобін) | 13 |
| Росквіт (Бабруйск) | 13 |
| СДЮШАР-5 (Магілёў) | 12 |
| ДЮСШ (Барысаў) | 10 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПЛАВАННЕ

**САЛІГОРСК. 18–20 студзеня мацнейшыя плыўцы Міншчыны зімнім чэмпіянатам вобласці адкрылі сезон 2001 года. Гэтыя старты з'яўляліся адборачнымі да зімняга чэмпіянату краіны і паказалі значны рост маладзечанскіх лідэраў за два з паловай месяцы, якія прайшлі з часу спаборніцтваў на Кубак вобласці.**

**Анастасія Лях** (трэнеры **У. Антонаў, Л. Крывецкая**) не пакінула ніякіх шанцаў саперніцам на дыстанцыях 200 м брасам, 200 і 400 метраў комплексным плаваннем.

Працягвае прагрэсіраваць **Віталь Барташэвіч** (У. Антонаў), які ўпэўнена выйграў двухсотметроўку брасам, а ў барацьбе за чэмпіёнскі тытул на дыстанцыях 50 і 100 м гэтым жа спосабам устанавіў асабістыя рэкорды (толькі крананне на фінішы саступіў сярэбранаму прызёру Маладзёжных Алімпійскіх гульняў у Маскве **Ігару Чыжыку** з Мінскага раёна).

Увайшоў у форму **Сяргей Канарэйкін** (У. Антонаў), які не трэніраваўся амаль год з-за складанага пералому рукі. На дыстанцыях 50 і 200 м на спіне ён і член зборнай каманды РБ **Андрэй Ляшко** лёгка "разабраліся" з неаднаразовым чэмпіёнам і рэкардсменам краіны **Паўлам Пазняком**, і толькі сотыя долі секунды аддзялілі Сяргея ад верхняй прыступкі п'едэстала гонару.

13–14–гадовыя плыўцы пакуль яшчэ не могуць скласці паўнацэнную канкурэнцыю старэйшым сапернікам. Але навідавоку значны прагрэс вынікаў **Веранікі Бурсевіч (А. Караў)**, **Вольгі Чабан (А. Склокін)**, якія ўшчыльную падышлі да нарматыву кандыдата ў майстры спорту Таццяны Лях (У. Антонаў, А. Караў) і **Дзяніса Козіна** (У. Антонаў).



Фота з архіва маладзечанскай КДЮСШ.

**Майстар спорту РБ Сяргей Канарэйкін.**

У выніку трохдзённай барацьбы маладзечанскія спартсмены саступілі салігорцам і вельмі моцнай камандзе абласнога вучылішча алімпійскага рэзерву і занялі 3 месца, пакінуўшы adзаду плыўцоў Мінскага раёна, Барысава, Слуцка і Маладзечанскага раёна.

У склад зборнай каманды вобласці для ўдзелу ў зімнім чэмпіянаце РБ, які 5–9 лютага пройдзе ў Салігорску, увайшлі Анастасія Лях, Віталь Барташэвіч і Сяргей Канарэйкін, а іх маладой змене трэба будзе рыхтавацца да першынства РБ у праграме Алімпійскіх дзён моладзі, адбор куды пройдзе ў красавіку ў Слуцку і Маладзечне.

**Юрый ІВАНІЦКІ.**

■ СУБ'ЕКТЫЎНА

## На жаль, як заўсёды

**МАЛАДЗЕЧНА. 21 студзеня ў Чысці прайшоў чарговы раённы турнір па міні–футболе. Сабраліся толькі чатыры, нават, можна лічыць, тры каманды, бо чысцінская "Забудова", якая стала цяпер афіцыйна футбольным клубам, выставіла два склады. З чым звязанае такое малое прадстаўніцтва з раёна – пытанне да арганізатараў, бо верыцца з цяжкасцю, што Радашковічы ці Лебедзева ўвогуле ведалі, калі адбудзецца гэты турнір, у якім яны заўсёды ўдзельнічалі.**

Спаборніцтвы такога ўзроўню яшчэ раз пацвердзілі, што нікому яны не патрэбныя. Былі праведзеныя, каб адзначыцца. І ўсё. Ні добрасумленнага судзейства (што, дарэчы, ужо не ў першы раз), ні добрай арганізацыі ў плане таго, што турнір на самой справе носіць назву раённага, ні нейкай зацікаўленасці арганізатараў прысутныя так і не заўважылі.

Перамагла "Забудова–2", другое месца – вытворчае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства "Беразінскае". Гульнявыя здольнасці каманд, як заўсёды, на жаль, былі на другім плане.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

